

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№6 (188) КРАСАВІК 2015 ГОД

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

# КАРЦІНКА ПЕРАКОНВАЕ МАЦНЕЙ ЗА ЦВЯРОЗЫ РОЗУМ

**У сённяшнім інфармацыйна насычаным свеце пры рэгулярным праглядзе тэленавінаў і разнастайных інтэрнэт рэсурсаў ці не кожны чалавек можа пачувацца ледзьве ні сапраўдным палітолагам.**

Як заявіла мне адна мая знаёмая: «Не дурнейшыя мы за цябе - навіны праглядаем штодня». Ну, як кажуць, тут ужо не паспрачаешся. Для пераважнай колькасьці насельніцтва тэлевізар стаў найгалоўнейшым аўтарытэтам, што злучае ў адзінае ментальнае цэлае раскіданых па новых нацыянальных рэспубліках колішніх грамадзянаў былога СССР. Відавочна, што імперскія прышчэпкі, атрыманыя людзьмі за Саветамі, за дваццаць постсавецкіх гадоў нікуды не зніклі, бо не зніклі ні самі Саветы, ні савецкае здумленне, ні дзяржаўнае тэлебачанне, ні расейкая мова, праз якую і адбываецца персанальнае тэлеачмурэнне і тэлеатлумленне разгубленых перад падзеямі зменлівага свету тутэйшых людзей, для якіх нязменнасць, стабільнасць, прадказальнасць з'яўляюцца найгалоўнейшымі каштоўнасцямі жыцця.

Дзякуючы татальнаму кантролю дзяржавы над тэле-радыёпрасторай данесці супрацьлеглы погляд да звычайнага спажыўца амаль не ўяўляецца магчымым. Таму меркаванне, што супярэчыць пачутаму з тэлевізара, адназначна ўспрымаецца, як правакацыйнае, варожае, скажаючае ўстаялае ўспрыманне рэчаіснасці. Разам з тым у вялікай ступені дзяржаўныя каналы ў Беларусі і Расеі не толькі самі навязваюць гледачам і слухачам сваю інтэрпрытацыю падзей, але і самі залежаць ад сваёй аўдыторыі, якая патрабуе ад СМІ адпаведнай іхняму светапогляду інтэрпрытацыі. Так выходзіць, што абодва бакі трапляюць у замкнёнае кола віртуальнага светабачання далёкага ад аб'ектыўнай рэальнасці. У гэткай сітуацыі праўда застаецца незапатрабаванай, бо разбурае ўстаялыя стэрыятыпы.

Здавалася б, так проста: няма ў краіне незалежнага, грамадскага ці прыватнага тэлебачання – няма і аб'ектыўнай інфармацыі. Няма ў тваёй краіне вольнага доступу да тэлеканалаў тваіх суседзяў( палякаў, літоўцаў, латышоў, украінцаў) – значыць няма свабоднай прэсы ў тваёй краіне. Значыць дзяржава можа абалваніць, падмануць народ, схаваць рэальную праўду, якую глядач ці слухач мог бы самастойна пачуць ці пабачыць з латышскіх, літоўскіх, польскіх, украінскіх тэле-радыёканалаў. Застаецца толькі зразумець, навошта чыноўнікам хаваць тую праўдзівую інфармацыю? Аднак і на гэта не хапае смеласці ў звычайнага чалавека, які, відаць, не разумее навошта яму самастойнае здумленне і аб'ектыўная інфармацыя. Самастойнасць, змены, развітанне з мінулым, адыход ад старых стэрыятыпаў успрымаецца, як разбурэнне, зразумелай сістэмы паводзін.

Відаць, таму захоп Расеяй паўвострава Крым амаль 60% апытаных беларусаў лічаць "гістарычнай справядлівасцю". Улічваючы становішча з аб'ектыўнай інфармацыяй нядзіўна, што большасць беларусаў (52,2%) лічаць новую ўкраінскую ўладу фашыстамі, хаця так не думаюць 32,2% нашых суграмадзян. Сепаратыстаў на Данбасе 32,3% беларусаў лічаць тэрарыстамі, але ж большасць (54,1%) не падтрымліваюць такі пункт гледжання. Улічваючы ўсе гэтыя абставіны можна казаць пра тое, што ў Беларусі, а Расеі яшчэ ў большай ступені ў сферы тэле-радыёпрасторы мы сутыкаемся не з інфармацыяй, а з прапагандай.

Да прыкладу, маючы на ўвазе Украіну, галоўны рэдактар "Гістарычнай праўды" Вахтанг Кіпіані заявіў, што расейская прапаганда нагадвае нацысцкую сваёй скіраванасцю супраць канкрэтнага народа.Тое ж самае рабіла нацысцкая прапаганда, дегуманізуючы габрэяў, і яны дасягнулі "поспеху "", - патлумачыў Кіпіані. Паводле яго слоў, "немцы ў 30-40-х гадах ХХ стагоддзя забівалі мільёны людзей, і ім не было за гэта сорамна". "Тое ж самае зараз робяць расійскія акупанты на Данбасе", - лічыць журналіст. Але ж, хто такі Кіпіані ў параўнанні з дзяржаўнай тэлевізійнай версіяй і тым больш з тэлевізійнай карцінкай, якая пераконвае мацней за цвярозы розум.

**Алесь Шумскі**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

БАРАЦЬБА С КАРУПЦЫЯЙ

# ПАЗБАВІЛІ МЕДАЛІ АСУДЖАНАГА ПРАКУРОРА

**22 красавіка кіраўнік дзяржавы падпісаў указ, згодна з якім былы пракурор Шумілінскага раёна Яўген Гуляеў пазбаўлены медалі «За бездакорную службу» трэцяй ступені за «за здзяйсненне асабліва цяжкага злачынства».**

22 жніўня 2014 года была праведзена аперацыя па затрыманні мясцовых хабарнікаў: пракурора Шумілінскага раёна Яўгена Гуляева і яго намесніка Дзмітрыя Храловіча пры атрыманні хабару.

13 лютага Віцебскім абласным судом пракурор Шумілінскага раёна і яго намеснік былі прызнаныя вінаватымі ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага часткай 3 артыкула 430 КК «Атрыманне хабару». Справа слухалася на закрытым судовым пасяджэнні.

Гуляева судом было прызначана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі ва ўмовах ўзмоцненага рэжыму на 8 гадоў, з канфіскацыяй маёмасці, з пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з праходжаннем службы ў праваахоўных органах і судах Рэспублікі Беларусь, тэрмінам на 5 гадоў. Акрамя таго ён быў пазбаўлены спецыяльнага звання пракурорскага работніка.

Аказаныя зацікаўленым камерцыйным структурам «паслугі» па падрыхтоўцы пракуратурай і падачы ў абласной эканамічны суд іскавай заявы і падтрымання іскавых патрабаванняў, работнікі пракуратуры ацанілі ў 32 млн. беларускіх рублёў. Грашовыя сродкі на суму больш за 23 млн. беларускіх рублёў былі атрыманы імі ў якасці хабару ў некалькі этапаў, паведамляла прэс-служба КДБ у жніўні 2014 года.

**TUT.BY**

ДЭМАГРАФІЯ

# НАСЕЛЬНІЦТВА СКАРАЧАЕЦЦА

**Паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта колькасць жыхароў Шумілінскага раёна за апошнія пяць гадоў зменшылася на дзве тысячы чалавек. А за апошнія 20 гадоў амаль на 10 тысяч!**

Усё насельніцтва Рэспублікі Беларусь на 1 студзеня 2015 г складала 9.480.868 чалавек. Гарадское насельніцтва ў тым ліку 7.324.980, сельскае - 2.155.888.

Колькасць насельніцтва ў абласных цэнтрах: Гомель - 516976, Магілёў - 374655, Віцебск - 366299, Гродна - 361352, Брэст - 335.645.

У Віцебскай вобласці на 2015.01.01 пражывала 1.198.515 чалавек.

У Шумілінскім раёне зараз пражывае 18521 чалавек, у тым ліку ў самім райцэнтры Шуміліна - 7 395 чалавек.

У мінулым 2014 годзе ў раёне пражывала 18806 чалавек, у 2013 - 19108, у 2012 - 19347, у 2011 - 19964, а ў 2010 - 20 523. Як відаць з статыстычных дадзеных, за пяць апошніх гадоў насельніцтва Шумілінскага раёна скарацілася больш чым на дзве тысячы жыхароў. А за апошнія дваццаць гадоў зменшылася (у 1996 годзе было 28838 жыхароў) амаль на дзесяць тысяч жыхароў!

Для параўнання з прылеглымі раёнамі:

У суседнім Бешанковіцкім раёне жыхароў яшчэ менш - 16105, Бешанковічах - 6 755.

У Лепельскім раёне - 33419, у Лепелі - 17.630.

У Сенненскім раёне - 22604, у Сянно - 7498.

У Чашніцкага раёне - 31811, у Чашніках 8907.

Ва Ўшацкім раёне - 13 969, ва Ушачах - 6036.

**Алесь Прыбярэжны**

ПАМЯЦЬ АБ ВАЙНЕ

# АСТАНКІ ПЕРАПАХАВАЛІ

**Урачыстая цырымонія з удзелам прадстаўнікоў мясцовай улады, грамадскасці, школьнікаў адбылася на вайсковых могілках каля вёскі Дворышча, дзе пахаваныя больш за 1,5 тыс. абаронцаў Айчыны.**

Астанкі воінаў, якія загінулі на тэрыторыі раёна ў гады Вялікай Айчыннай вайны, былі выяўленыя асабістым складам 52-га асобнага спецыялізаванага пошукавага батальёна. На жаль, удалося ўстанавіць асобу толькі аднаго з воінаў – гэта старшы сяржант Аляксей Іваноў, ураджэнец Архангельскай вобласці, загінуў 15 лістапада 1943 года. Імёны яшчэ шасці герояў засталіся невядомыя.

Дарэчы, у Шумілінскім раёне ў гады Другой Сусветнай вайны загінулі каля 20 тыс. савецкіх салдат.

**А. Прылуцкі**

ПАМЯТАЕМ!

# ПАМЁР ПАЭТ АЛЕГ САЛТУК

**23 красавіка на 69-м годзе пайшоў з жыцця беларускі паэт і перакладчык, ганаровы грамадзянін Шумілінскага раёна Алег Уладзіміравіч Салтук.**

А. У. Салтук нарадзіўся 25 жніўня 1946 г. у вёсцы Рыжэнькі Шумілінскага раёна ў сям'і патомных хлебаробаў, якая ў 1962 годзе пераехала на радзіму бацькі ў вёску Якаўкі Ушацкага раёна. Да школы бацька навучыў сына чытаць, а маці ў раннім дзяцінстве прывіла любоў да песні. У 1963 годзе А. Салтук скончыў Мішкавіцкую сярэднюю школу і паступіў на аддзяленне рускай мовы і літаратуры Магілёўскага педагагічнага інстытута імя Аркадзя Куляшова. Пасля заканчэння інстытута (1967) служыў у Савецкай Арміі.

У 1969—73 гадах — адказны сакратар раённай газеты «Патрыёт» (г. п. Ушачы).

З 1974 года — уласны карэспандэнт абласной газеты «Віцебскі рабочы».

З 1980 года па 1999 год — сакратар Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Узнагароджаны медалямі.

Асноўныя матывы паэзіі А. Салтука — любоў да Радзімы, родная зямлі, гераічная памяць беларускага народа, клопаты і трывогі нашых дзён, пачуцці сяброўства і кахання, няпростыя чалавечыя адносіны.

Пяру А. У. Салтука належаць зборнікі паэзіі «Пачатак дня» (1974), «Працяг» (1977), «Святло зямлі» (1982), «На далонях жыцця» (1988), «Святло зямлі» — выбранае (1992), «Трывога лёсу» (1996), «Не разлюбі» (2003), «На вейцы веку» (2006).

Творы паэта перакладаліся таксама на ўкраінскую, польскую, рускую, балгарскую, нямецкую, асецінскую мовы. А. Салтук перакладаў на беларускую мову вершы рускіх і ўкраінскіх паэтаў.

Лаўрэат літаратурных прэмій Ленінскага камсамола Віцебшчыны, імя Уладзіміра Караткевіча, часопіса «Маладосць», «Сузор'е муз». Лаўрэат літаратурнай прэміі «Залаты купідон» (2011).

**"Герой працы"**

**НЕ ТРЭБА СПАЧУВАЛЬНЫХ ТЭЛЕГРАМ...**

*Не трэба спачувальных*
*тэлеграм —*
*Папера рвецца і ліняюць*
*словы.*
*Часова ўсё, да роспачы*
*часова.*
*Любіце тут.*
*Любіць дарэмна там.*
*Бо чалавек жа бачыцца*
*здалёк.*
*Бо чалавек жа бачыцца па*
*справах.*
*Няма яго між правых і*
*няправых —*
*Ён з горкім жвірам у нябыт*
*пацёк.*
*Ды ці ў нябыт?*
*Мо вернецца сюды*
*І нам шырэй на ўсё адкрые*
*вочы?..*
*Глытком крынічнай*
*першаснай вады,*
*Дубком на ўзлеску вечна*
*маладым,*
*Тым вернецца, чым сам сабе*
*прарочыў.*
*Цяпер яго любіце.*
*Не тады.*

***Алег Салтук***

ЗДАРЭННІ,КРЫМІНАЛ

# ШКОЛЬНІКІ ВЫРАТАВАЛІ СТАДЫЁН

**Юныя ратавальнікі з Язвіна да прыбыцця пажарных з Шуміліна самі тушылі сухую траву, якая загарэлася каля школьнага спартыўнага стадыёна.**

12 красавіка каля 14-й гадзіны ў выніку бестурботнасці невядомых мінакоў загарэлася сухая расліннасць каля школьнага спартыўнага стадыёна в. Язвіна Шумілінскага раёна. З-за моцнага ветру агонь хутка распаўсюджваўся па сухой траве і ўжо зусім хутка стаў пагражаць стадыёну, які размяшчаўся паблізу жылых дамоў, дзіцячага сада і надворных пабудоў.

Вучань Язвінскай базавай школы сямікласнік Махно Валерый заўважыў дым і стаў клікаць на дапамогу сваіх сяброў. Хлопцы паведамілі дарослым, а затым самі сталі тушыць пажар. Тушылі падпаленую траву вадой з вёдраў, якія паспелі ўзяць з сабой і галінкамі збівалі полымя. Такім чынам Махно Максім, Кухарэнка Павел і Аверченко Аляксей, Махно Валерый, Бортнікаў Мікіта, Максімаў Яўген, Крошчанка Дзяніс, Ботнікова Валерыя тушылі траву да прыбыцця ратавальнікаў Шумілінскага РАНС.

Калі прыбылі ратавальнікі ўзялі агонь пад кантроль, хлопцы далёка не сыходзілі і назіралі за іх працай ...

13 красавіка выконваючы абавязкі першага намесніка начальніка Шумілінскага РАНС Жук Г.Л. сустрэўся з навучэнцамі ў іх роднай школе і падзякаваў за тое, што героі не засталіся абыякавымі, рабілі ўсё, што ад іх залежала – паведамілі дарослым, імкнуліся спыніць агонь, які хутка распаўсюджваўся па сухой траве.

На пытанне: дзе навучыліся такдзейнічаць у экстрэмальнай сітуацыі, дружна адказалі - на ўроках па бяспецы жыццядзейнасці і ў гуртку "Юны ратавальнік".

**Сяржук Горкі**
**па матэрыялах МНС**

НАРОДНЫ СТРОЙ

# ПЕРШАЕ СВЯТА НАРОДНАГА КАСЦЮМА

**Абласны метадычны цэнтр народнай творчасці вядзе актыўную працу па вывучэнні нацыянальнага касцюма. Рэканструкцыяй касцюмаў займаюцца таксама і ў Шумілінскім доме рамёстваў.**

Тлумачыць галоўны мастак ОМЦНТ Людміла Вакар: на жаль, мы валодаем толькі фрагментарнымі ведамі аб гэтым прадмеце побыту, які з'яўляецца часткай культуры народа. Ёсць калекцыі ў этнаграфічным музеі ў Санкт-Пецярбургу, музеях старажытнай беларускай культуры і гістарычным ў Мінску. Але там галоўным чынам прадстаўлены касцюмы Дубровенскага раёна.

Справа ў тым, што ў пачатку ХХ стагоддзя ў сувязі з будаўніцтвам чыгунак у наш край лінуў вал прамысловых тавараў, і народны касцюм ў ім растварыўся. Але ён мае сваю каштоўнасць, і сёння мы па макулінках збіраем звесткі пра асаблівасці рэгіянальнага ладу.

Рэканструкцыяй касцюмаў займаюцца многія дамы рамёстваў, у прыватнасці, Шумілінскі, Лепельскі, Гарадоцкі, Браслаўскі, цікавыя ўзоры знойдзены ў Глыбокім. Сёлетняй восенню плануецца правесці першае свята народнага касцюма. Гэта будзе не проста выстава, а дэманстрацыя ў абрадах, народных гуляннях.

Дарэчы, традыцыйны народны касцюм Шумілінскага раёна мае шэраг асаблівасцяў, якія вылучаюць яго як самастойны і непаўторны строй адзення. Больш падрабязна пра народным касцюме Шумілінсчыны можна азнаёміцца на сайце: referatdb.ru/geografiya/177291/index.html

– Вялікую дапамогу ў зборы матэрыялу могуць аказаць жыхары вобласці, у якіх захаваліся старыя фатаграфіі, дзе захаваныя іх продкі. Па дэталях адзення, якую насілі ў канцы ХІХ - пачатку ХХ стагоддзяў, можна скласці карціну існавала ў тыя часы касцюма. Гэта магчымасць аднавіць адзін з кірункаў народнай культуры, – кажа дырэктар ОМЦНТ Кацярына Лабуко і звяртаецца з просьбай дасылаць у цэнтр фота з сямейнага альбома, можна сканаваныя – па электроннай пошце.

Адрас: 210026, Віцебск, вул. Леніна, 35А, электронная пошта: amcnt (@) vitebsk.by або onmc-vit (@) kultura.by.

**vitvesti.by**

# КРАДЗЕЖ АЎТАМАБІЛЯ

**10 красавіка ў апоўдні ў жыхара Шумілінскага раёна сагналі аўтамабіль Форд-Таурус.**

10 красавіка ў 17.40 у міліцыю звярнуўся мясцовы жыхар з паведамленнем пра тое, што прыкладна з 11.00 да 13.00 невядомы зламыснік здзейсніў угон яго аўтамабіля маркі Форд-Таурус, 1988 года выпуску, дзяржнумар 9606 УН.

**Сяржук Горкі**
**па зводках УУС**

СЕМІНАРЫ

# ФІНАНСАВЫ ЛІКБЕЗ ДЛЯ ПЕНСІЯНЕРАЎ

**"Людзі элегантнага ўзросту", як часам называюць пенсіянераў, проста вымушаныя ісці ў нагу з часам. Шумілінскім раённая бібліятэка запрасіла пенсіянераў на ўрок фінансавай пісьменнасці.**

Традыцыйна склалася, што цэнтральная раённая бібліятэка стала зручным месцам для правядзення многіх мерапрыемстваў не толькі бібліятэчнага зместу, але і сустрэч людзей па самым разнастайным падставах і прычынах. Так, у аўторак у чытальнай зале адбыўся своеасаблівы ўрок - урок фінансавай пісьменнасці. Прыняць удзел у ім усіх жадаючых, і ў першую чаргу пенсіянераў, запрасілі работнікі "Беларусбанка".

Сустрэча прайшла вельмі плённа і інфармацыйна, удзельнікі пачулі ад банкаўскіх работнікаў шмат карыснай інфармацыі, атрымалі адказы на многія хвалюючыя пытанні. Прызналіся, што пра многае даведаліся ўпершыню. А напрыканцы выказалі пажаданне зрабіць такія сустрэчы рэгулярнымі і цяпер чакаюць майстар-клас у «Беларусбанку». Паабяцалі, што прыйдуць абавязкова. Тэарэтычныя веды трэба абавязкова падмацоўваць практычнымі заняткамі.

**Уладзімір Амбросаў**

БАНКРУТСТВА

# ХРАНІЧНАЯ ЗАПАЗЫЧАНАСЦЬ ПА ЗАРОБКАХ - НОРМА ЖЫЦЦЯ

**У Шумілінскім раёне кіраўнікі 11 арганізацый па-ранейшаму ўпарта не выплочваюць сваім работнікам заработную плату.**

Па выніках сакавіка Нацыянальны статыстычны камітэт засведчыў, што на Віцебшчыне маецца адна з самых вялікіх запазычанасцяў па зарплаце: больш за 200 прадпрыемстваў з 518 даўжнікоў па краіне. Зусім дрэнная сітуацыя з выплатамі заробкаў і ў прадпрыемствах Шумілінскага раёна.

Па стане на пачатак красавіка ў Шумілінскім раёне тыя ж самыя сельгаспрадпрыемствы маюць даўгі па заробках, што і ў пачатку сакавіка:

1. ААТ "Обальскі керамічны завод"
2. ААТ "Лаўжанскае"
3. КУСГП "Сіроцінскі"
4. КУСГП "Ульскі"
5. КУСГП "Мішневічы"
6. ААТ "Прыдзвінскі"
7. ААТ "Аграбаравінка"
8. ААТ "Ляжні"
9. ААТ "Прыазёрны мір"
10. Шумілінскае КУП меліярацыйных сістэм
11. КУВП

Усягоў Беларусіў 518 арганізацыях мелася пратэр-мінаваная запазычанасць па заработнай плаце перад 90,8 тыс. Работнікамі, такім чынам на Віцебскую вобласць прыходзіцца 34,5% арганізацый даўжнікоў. Сума пратэрмінаванай запазычанасці дасягнула 300.6 млрд. рублёў.

Сярод сельскіх раёнаў паўночнага краю, дзе сельгаспрадпрыемствы значна драбней, колькасць даўжнікоў пачынаецца ад 10 прадпрыемстваў, пры гэтым найбольшая колькасць даўжнікоў у Талачынскім - у 14 і Мёрскім - 16 арганізацыях.

**Ян Вайтовіч**

# АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання ячшэ да з'яўлення газеты на паперы.*

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# КРАІНА ЧЫНОЎНІКАЎ І ЗЭКАЎ

**Па інтэрнэце ходзіць шмат прапановаў, як не стаць дармаедам. Прапануюць зрабіцца інвалідам, нараджаць дзяцей, сысці ў войска... Але самы просты рэцэпт пазбавіцца «падатку на дармаедства», — гэта быць пакараным за дармаедства.**

Не сакрэт, што славуты «дэкрэт пра дармаедства» яшчэ да яго прыняцця нарабіў шоргату ў асяродках зводльшага законапаслухмяных беларусаў. Усе чакалі ад яго нейкіх жудасных захадаў. А на справе ён аказаўся даволі бяззубым. Не хапіла ва ўлады крэатыўнага мыслення, і ў выніку незразумела, як ён будзе працаваць.

Ад пачатку разбярэмся, што такое гэты дэкрэт з эканамічнага пункту погляду. Зараз кожны «лайдак» павінен на працягу года заплаціць у бюджэт 20 базавых велічыняў «на пакрыццё сацыяльных выдаткаў». На сёння гэта 3 мільёны 600 тысячаў рублёў, альбо прыкладна $250. Будзем лічыць у доларах, бо так атрымліваецца менш нулёў.

Паводле словаў нашага кіраўніцтва, дай Бог яму здароўя, у краіне каля 400 тысячаў дармаедаў.

400 000 х 250 = $100 мільёнаў. Менавіта на гэтую суму максімальна можа разлічваць дзяржава з «дармаедскага падатку». Сума, з аднаго боку, немалая. Але ў маштабах краіны — пшык.

Да прыкладу, за валютнакрызісны снежань 2014 года, згодна з дадзенымі Нацыянальнага банка, беларусы набылі $902 мільёна. У цэлым за 2014 год насельніцтва купіла валюты на агульную суму $10,96 мільярда, прадало — на $9,58 мільярда. Чыстая купля валюты за мінулы год склала 1,38 мільярда долараў. Карацей, «бедныя беларусы», калі паднапружацца, за адзін месяц могуць дзесяць разоў пакрыць гадавую выручку «лайдацкага падатку».

Але наўрад ці яны будуць напружвацца. Справа ў тым, што вылічыць лайдакоў практычна немагчыма. Канешне, на ўліку ў міліцыі ёсць пэўная колькасць асацыяльных элементаў, але з іх і так узяць няма чаго. Што ж да астатніх, то начальнік галоўнага ўпраўлення падаткаабкладання фізічных асоб Міністэрства па падатках і зборах Міхаіл Расолька распісаўся ва ўласным бяссіллі, паведаміўшы, што падатковая разлічвае выключна на сумленнасць грамадзянаў…

Цікава, хто прызнаецца ў дармаедстве? Нават апошні бомж, які збірае паперу ды бутэлькі па сметніцах, лічыць сябе не дармаедам, а эколагам, барацьбітом за другасную перапрацоўку сыравіны.

Канешне, падатковая будзе спрабаваць «шчаміць» дармаедаў праз зарэгістраваныя буйныя здзелкі. «У першую чаргу будуць праверaны грамадзяне, якія не ўдзельнічалі ў фінансаванні дзяржаўных выдаткаў, але пры гэтым здзяйснялі дарагія пакупкі», — сказаў Расолька. Але ж пры гэтым здзелка павінна быць зусім буйной — нерухомасць альбо машына. Пры набыцці лядоўні альбо тэлевізара ні ў каго пашпарту і не запытаюцца. І я больш чым упэўнены, што кватэры не набываюць дармаеды.

Калі ўсур'ёз пачаць вылічваць «дармаедаў», то трэба наладзіць татальны кантроль над выдаткамі грамадзянаў. А гэта значыць, штат падатковай інспекцыі трэба павялічыць разоў у пяць. Збольшага, тады ўсе дармаеды стануць чыноўнікамі-падаткавікамі.

Адной з мераў, закліканых стымуляваць дармаедаў да яўкі ў падатковую, называецца тое, што ім будзе забаронены выезд за мяжу. Спадарства, гэта смешна! 70% беларусаў за мяжу не выязджалі ніколі! Гэта па-першае. Па-другое, як гэта ажыццявіць, калі ў нас адкрытая мяжа з Расіяй? Нават калі рускія з беларусамі дамовяцца пра ўзаемны абмен спісамі невыязных, то можна выехаць у Расію, а адтуль — ва Украіну і…

Па інтэрнэце зараз ходзіць шмат экзатычных прапановаў, як не стаць дармаедам. Прапануюць зрабіцца інвалідам, нараджаць дзяцей, сысці ў войска і нават стаць сябрам Саюза пісьменнікаў. Але самы просты рэцэпт пазбавіцца «падатку на дармаедства», насамрэч — гэта быць пакараным за дармаедства адміністрацыйным арыштам. Адбыццё арышту прыраўноўваецца да выплаты збору.

Адседзець 15 сутак у нашых умовах, калі «па палітыцы» праз гэта прайшлі дзясяткі, калі не сотні тысяч чалавек, гэта нават не ганьба. У пэўных палітычных колах нават лічыцца, што калі ты «на сутках» не быў, значыць, з табой нешта не так: альбо ты КДБшны агент, альбо «ты яшчэ зялёны».

Суткі ў ізалятары каштуюць недзе 70 тысячаў. Нават калі сто тысячаў пасля дэвальвацыі, нават калі максімальны тэрмін 15 сутак, то за гэта дармаед заплаціць паўтара мільёны рублёў, што на 2 мільёна 100 тысяч танней, чым падатак. Ну і, канешне, улічвайце два тыдні адпачынку па паважнай прычыне.

Карацей, дармаедам зараз два шляхі. Альбо ісці працаваць у падатковую, што аўтаматычна робіць іх чыноўнікамі, а не дармаедамі. Альбо ў кароткатэрміновыя «зэкі». Але, відавочна, што з «дармаедскага падатку» бюджэт сінявокай не надта выйграе, а можа, нават, і згубіць. І таму гэты дэкрэт — проста адпіска на патрабаванне Аляксандра Рыгоравіча «навесці парадак» у гэтай сферы.

**Сяргей Пульша**
**«Новы час»**




БЕЛАРУСЬ - РОССИЯ

# ЛУКАШЕНКО И КРЕМЛЬ: ДРУЖБА ДРУЖБОЙ, А ПАРАДЫ ВРОЗЬ

**Белорусский президент 18 апреля раскритиковал «политиков, которые сегодня амбициозно отказываются приехать на празднования в Москву, хотя раньше и обещали». При этом выяснилось, что и сам он на параде 9 мая в российской столице присутствовать не будет.**

Но тут дело не в амбициях, а в законе, пояснил Александр Лукашенко: «В Беларуси по Конституции, кроме главнокомандующего, никто не может принимать парад». А он у нас тоже 9 мая. Вместе ведь, как говаривал белорусский лидер, в окопах гнили.

Правда, в Основном законе Беларуси слова «парад» нет вообще. Еще один пикантный момент заключается в том, что в начале марта ряд авторитетных российских ресурсов со ссылкой на Юрия Ушакова, помощника президента России, сообщил: Лукашенко дал предварительное согласие на участие в параде по случаю 70-летия Победы в Москве.

**Путин не увидит на трибуне ни Обамы, ни Лукашенко**

Возможно, журналисты тогда не так поняли Ушакова. Не исключено, что Лукашенко пообещал лишь в принципе появиться на майских торжествах. И от этого он не отказывается. Общаясь с журналистами в Минске на субботнике 18 апреля, глава государства сообщил, что, скорее всего, прибудет в Москву 7-8 мая и может участвовать в церемонии возложения венков к могиле Неизвестного солдата.

Но факт то, что 9 мая Владимир Путин не увидит рядом на трибуне ближайшего союзника, равно как и многих мировых лидеров, которые и в самом деле из принципа («амбициозно») отказались от участия в столь важном для Кремля мероприятии в знак протеста против антиукраинской политики российского руководства.

В ряду таких отказников — Барак Обама, Дэвид Кэмерон, Дональд Туск и прочие крупные деятели демократического мира. Так что Лукашенко в этом плане попадает в весьма приличную кампанию (хоть и с иной вербальной мотивацией).

Шутки шутками, но таким образом белорусский официальный лидер вольно или невольно добавляет еще один штрих в пиаровскую картину дистанцирования Минска от Москвы.

Показательно, что ряд российских интернет-СМИ тут же выстрелил заголовками типа «Лукашенко отказался приехать в Москву на 9 Мая».

Здесь ключевое слово — «отказался». Дипломатичную мотивацию белорусского лидера (типа: я верный союзник, но просто занят дома) проигнорировали. Это кладется в русло довольно популярного ныне в российском медиапространстве тезиса о «тихой измене Батьки».

**Вместо георгиевской ленточки — «Цветок Великой Победы»**

Ну, насчет измены они загибают, а вот позиционирование, в том числе и в плане символики, налицо. Еще одним показательным штрихом станет, судя по всему, негласный отказ от использования на День Победы в Беларуси гвардейских/георгиевских ленточек, ставших отличительным знаком сепаратистов на Донбассе.

Распространения этой символики в связи с праздником 9 Мая в Беларуси постарались избежать уже год назад. Тех товарищей (из торговых сетей, например), что не сразу въехали в новый политический контекст, властям пришлось аккуратно поправить.

Ныне же вертикаль без шума и пыли работает над тем, чтобы повсеместно были ленточки красно-зеленые, в цветах нынешнего белорусского государственного флага, с яблоневым цветком (победный май — время цветения).

Массовое производство такого аксессуара под названием «Цветок Великой Победы» наладили на могилевском ОАО «Лента». Минторг рекомендовал всем сотрудникам организаций торговли, бытового обслуживания и общественного питания украсить такой бутоньеркой форменную одежду на праздники. Скорее всего, ленточки будут раздавать и всем желающим.

Этот символ в начале года придумал и показал президенту БРСМ. У национально ориентированной оппозиции как БРСМ, сделанный по матрице комсомола, так и сама официальная символика (при том что в начале 90-х государственным был исторический бело-красно-белый флаг) не вызывают восторга.

Но в этой конкретной ситуации даже идейные противники Лукашенко убеждены: уж лучше красно-зеленая ленточка, чем черно-оранжевая.

**У белорусской независимости слабая база**

У белорусского президента наверняка уже работают в полную силу предвыборные соображения. Предпочти он 9 мая Москву Минску — оппозиция сразу бы заклеймила как сателлита Кремля.

Другое дело, что, хотя суверенная символика и важна, самостоятельность страны определяется отнюдь не только тем, чтобы ввести иные ленточки да в мундире главнокомандующего принять свой отдельный парад…

По причине колоссальной финансово-экономической зависимости от России белорусские власти не могут поставить заслон ее агрессивной пропаганде, которая де-факто работает на разрушение и без того слабой пока белорусской идентичности, создает плацдарм для гипотетического аншлюса.

Наметившийся курс на белорусизацию сверху (риторика властей, наглядная агитация, некий простор для культурных инициатив и пр.) чересчур робок, непоследователен (хотя и это лучше, чем ничего).

Раскрепощения гражданского общества, политизации белорусов власти, похоже, боятся больше, чем зеленых человечков Путина.

Но независимость страны могут обеспечить и отстоять лишь свободные, сознательные граждане, а не серая затурканная биомасса, которую воспроизводит нынешняя система.

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**
**«Белапан»**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# ЯК КРАЛІ Ў БЕЛКААПСАЮЗЕ

**У Мінску ідзе гучны працэс па справе саюза спажывецкіх кааператываў.**

Судзяць адразу шасцярых: ужо былых кіраўнікоў Белкаапсаюза і бізнэсоўцаў. Адны, як даводзіць пракурор, бралі хабар, другія яго перадавалі. У справе фігуруюць сотні тысяч даляраў.

Судзяць былых кіраўніка Белкаапсаюза Сяргея Сідзько, начальніка ўпраўлення капітальнага будаўніцтва Белкаапсаюза Дзмітрыя Калодзезнага і яго намесніцу Элеанору Сізук, намесніка дырэктара фірмы «Адонісбудсэрвіс» Уладзіміра Ленскага, дырэктара фірмы «Саната¬Буд» Аляксандра Драанькова, грамадзяніна Украіны Андрэя Турчанку. Сідзько і Турчанка — за кратамі, астатнія прыходзяць на суд з дому.

**Аматар віскі ў рангу міністра**

Белкаапсаюз — дзяржаўная арганізацыя, якая валодае вялізнай маёмасцю па ўсёй краіне. Гэта сетка крамаў і кавярняў, будаўнічыя і транспартныя арганізацыі і яшчэ шмат іншага. Вялікая бізнэс¬-імперыя, у якой занята больш за 80 тысяч чалавек. А кіраўнік гэтай «імперыі» прыраўняны па статусе да міністра.

Сяргея Сідзько абвінавацілі ў тым, што ў змове з Дзмітрыем Калодзезным лабіраваў інтарэсы прыватных фірм пры заключэнні дамоў на будаўніцтва і рамонт белакаапсаюзаўскіх аб'ектаў. За гэта абодва атрымлівалі грошы ад удзячных бізнэсоўцаў.

З 2010 па 2013 Сідзько паспрыяў заключэннюкантрактаўнабудаўніцтва крам у Лідзе, Любані, Жлобіне, на будаўніцтва халадзільнага склада ў Мінску, на рамонт у вучэбных карпусах Полацкага гандлёва-¬тэхналагічнага каледжа. Гэта толькі частка эпізодаў. І каля двух дзясяткаў сустрэч, падчас якіх перадаваліся грошы — у суме больш за $ 100 тысяч. Калодзезнаму перадавалі значна меншыя сумы.

Грошы перадаваліся пры пасярэдніцтве Ленскага. А разам з грашыма Ленскі «ад сябе» перадаваў Сідзько віскі: па адной, дзве, тры бутэлькі. Агулам не менш за 17.

**Муляж паўмільёна даляраў**

Паводле абвінавачвання, у 2011 Калодзезны ўступіў у змову з Андрэем Турчанкам. Прапанаваў украінцу знайсці пакупнікоў на аб'екты Белкаапсаюза: адміністратыўны будынак на вуліцы Татарскай, дзіцячы садок на Партызанскім праспекце ў Мінску і дзіцячы лагер у Мінскім раёне. Але была ўмова: пакупнік мусіў частку грошай аплаціць праз банк, а рэшту аддаць гатоўкай.

Турчанка сам даць рады ў такой справе не змог і звярнуўся да супрацоўніцы агенцтва па нерухомасці Браздзецкай: паабяцаў узнагароду за пошук кліента. Яна і адшукала — кампанію «БелЛПЗ». За будынак на Татарскай пакупнік мусіў $ 1,1 мільёна пералічыць на рахунак Белкаапсаюза, а $ 500 тысяч перадаць на рукі для хабару. Турчанка тады узяў $ 5000 задатку, а рэшту пакупнікі паклалі у банкаўскую ячэйку — нібыта для гарантыі. Як вынікае, бізнэсоўцы звярнуліся ў КДБ. І калі клалі грошы ў банк, гэта быў муляж — несапраўдныя даляры. А пасля, у ліпені 2013, прайшлі арышты.

Браздзецкую, між іншым, таксама будуць судзіць. Спачатку яе справу збіраліся разглядаць асобна, але суддзя вырашыў далучыць да гэтай. З наступнага пасяджэння лава абвінавачаных папоўніцца…

**«Раскайваюся»**

«Абвінавачанне зразумелае. Не прызнаю цалкам ні па адным з эпізодаў», — заявіў Сяргей Сідзько. У тон яму вымавіў і Драанькоў: «Абвінавачанне не прызнаю ў поўным аб'ёме».

Калодзезны прызнаў, што грошы браў, але нікому не спрыяў. Ленскі і Сізук адпірацца не сталі.

Падрабязную пазіцыю кожнага з абвінавачаных можна будзе пачуць толькі падчас іх допытаў у працэсе.

* * *

**Бацька немаўляці**

Дзмітрый Калодзезны нарадзіўся ў 1976. Жанаты. Гадуе сыноў: аднаму 7 гадоў, другому паўгода. Цяпер працуе майстрам у будаўнічай кампаніі.

Вінавацяць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі (да 6 гадоў калоніі); атрыманні хабару (да 10 гадоў калоніі з канфіскацыяй); падбухторванні да дачы хабару (да 7 гадоў калоніі).

**Уладкавалася ў сенатара**

Элеанора Сізук нарадзілася ў 1969 у Ташкенце. Грамадзянка Беларусі. Мае вышэйшую адукацыю. Замужам. Мае двух сыноў. Цяпер працуе ў «АмкадорБелвар», які належыць сенатару Шакуціну. Вінавацяць у атрыманні хабару (да 7 гадоў калоніі з канфіскацыяй); атрыманні незаконнага ўзнагароджвання (да 5 гадоў калоніі).

**Купіў дом на Канарах?**

Сяргей Сідзько нарадзіўся ў 1956 у Брэсце. Працаваў на Брэсцкім заводзе бытавой хіміі, быў старшынёй праўлення Брэсцкага аблспажыўсаюза. У 2009 прызначаны кіраўніком Белкаапсаюза. Жанаты. Мае сына і дачку.

«Дайшло да таго, што Сідзько купіў і аформіў на дачку дом на Канарскіх астравах. Напэўна, у спадзяванні, што праваахоўныя органы там яго не дастануць. За продаж будынка ў цэнтры Мінска патрабаваў хабар аж у паўмільёна даляраў», — заявіў летась Лукашэнка пра гэтую справу. Праўда, на судзе дом на Канарах пакуль не ўсплыў.

Адвакат хадайнічаў, каб Сідзько змянілі меру стрымання альбо вызвалілі пад заклад. У якасці закладу жонкапрапанаваласваютрохпакаёўку (67 м2) у Брэсце. Але суддзя адмовіў.

Сідзько вінавацяць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі (пагражае да 10 гадоў зняволення) і атрыманні хабару (да 15 гадоў з канфіскацыяй).

**Сяргей Макарэвіч**
**«Наша Ніва»**

ПЛАКАЛЬЩИКИ

# ПОЧЕМУ ОФИЦИАЛЬНЫЕ ВЛАСТИ БЕЛАРУСИ УПОРНО ОТКАЗЫВАЮТСЯ ПРОВЕСТИ ЧЕСТНЫЕ ВЫБОРЫ?

**Плакальщики – специально нанятые люди, задача которых голосить на похоронах. Поскольку в последние годы избирательные кампании в Беларуси каждый раз превращаются в похороны надежд на народовластие, на нормальное развитие страны, то у нас в этой старинной профессии появились настоящие виртуозы.**

На политическом календаре – «президентские выборы», и несменяемый секретарь Центризбиркома Николай Лозовик заголосил: «Разобщенность оппозиционных сил…»; «Нам бы хотелось, чтобы представители оппозиции более активно включились в подготовку к президентским выборам…», «Выборы для избирателей тогда становятся интересными, когда озвучиваются разные точки зрения, когда в них участвуют различные политические силы…»

Лозовик страдает и в газетах, и на телеэкране, и на интернет-сайтах. Мол, как ответственно подходят к выборам провластные БРСМ и «Белая Русь» и как безответственно – оппозиция! Ну нельзя так, надо думать о людях!

Изверелась вся и глава Центризбиркома Лидия Ермошина. Потому что нет интриги в выборах, нет к ним должного интереса, бездействуют оппозиционные партии и общественные объединения! «Такое сумеречное молчание необъяснимо и недальновидно», – в унисон с Лозовиком голосит Ермошина.

И чем ближе выборы – тем громче будут причитать. Потому что задача плакальщиков – привлечь к похоронам как можно больше внимания, создать массовку. В древности, отрабатывая свой номер, они часто доходили до экстаза и исцарапывали себя до крови, «страдая» по покойнику, с которым даже никогда не встречались.

У нас устраивают другие «аттракционы». Например, когда голосуют… умершие (такая история, документально зафиксированная, случилась в Смолевичском районе).

Или гонки с избирательной урной и голосование на скорость. (В Витебске на прошлых выборах нашлась комиссия, где голосование на дому умудрились провести со скоростью 2 человека в минуту.)

Интеллектуалам подкидывают на размышление ребусы. Избирателей на участке 100%, приняли участие в голосовании 104%. Как такое может быть? А ведь было. В том же Минске – неоднократно.

Есть еще аттракцион телепортации: это когда независимый наблюдатель выходит на крылечко покурить, а за это время, как потом выясняется, мимо него, но невидимыми, проходили голосовать и голосовали толпы людей.

А есть почти эротический аттракцион разглядывания, пардон, задниц членов избирательных комиссий. Это когда они склоняются дружно над столами для подсчета голосов, закрывая бюллетени своими телами, а наблюдатели вынуждены издали разглядывать только эти самые места, обтянутые юбками и брюками.

Члены комиссий потом дружно голосят: «Мы показали наблюдателям все, что могли. Чем они недовольны?..»

Вместе с ними голосят ЦИК, гостелеканалы, депутаты, разные «правильные аналитики». Про «двойные стандарты», про оппозицию, которая «не на благо страны»; про народ, который «сделал правильный выбор»… Но это работа у них такая – голосить, зазывать на похороны. В нашем случае – на похороны демократии.

И надо ли в этом участвовать, каждый решает сам.

Напомню только одну историю, чтобы потом никто не говорил, что что-то не понимал про белорусские выборы, чего-то не знал, о чем-то не догадывался.

…Вечером 19 декабря 2010 года, в день президентских выборов, если вы помните, Лидия Ермошина спешно покинула студию, из которой велся прямой эфир на телеканале ОНТ. Те, кто смотрел эфир, помнят, что главу Центризбиркома выбил из колеи вопрос ведущего Сергея Дорофеева. Наивный вопрос. Крамольный вопрос.

– Лидия Михайловна, – спросил Дорофеев. – А почему вы не можете провести выборы так, чтобы никто не мог усомниться, что Александр Лукашенко – действительно победитель? (Цитирую по памяти, но смысл был именно таким.)

Иглава ЦИК – всегда такая уверенная, знающая, опытная, категоричная и разговорчивая – просто не нашла, что ответить, практически бежала.

Конечно, потом Дорофеева отстранили от эфира. Ермошину, наоборот, поблагодарили и попросили в том же духе работать дальше. Но сколько бы теперь белорусские власти ни голосили, что Запад к нам несправедлив, что оппозиция – слаба и безответственна, что Александр Лукашенко «избран народом», вопрос-то остался. Снять его можно легко, приняв поправки в Избирательное законодательство, которые предлагает Европа, предлагает оппозиция. Это и сегодня можно сделать, срочно приняв соответствующий закон в «палате представителей» и «совете республики». Но ведь не делают. Голосят и ничего не делают.

Почему официальные власти Беларуси упорно отказываются провести честные выборы по демократическим, цивилизованным стандартам, результаты которых ни у кого не смогут вызывать сомнения?

Ответ на этот вопрос, по-моему, очевиден.

**Светлана Калинкина**
**www.belaruspartisan.org**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 28.04.2015 у 19.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.